Да юбілею фацімскіх аб'яўленняў 2
Інтэрв'ю з біскупам Юзафам Станеўскім 3
Душпастырства чыгуначнікаў 5
Моладзевая пляцоўка "На скрыжаванні" 7



Гродна
№4 (462),
12 лютага 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## 11 лютага

## СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ХВОРЫХ





# Даць церпячым надзею і ўпэўненасць у Божым суцяшэнні

**Калі ў Хрыстовым целе, якім ёсць Касцёл, церпіць адна частка, разам з ёю пакутуюць і ўсе іншыя часткі (параўн. 1 Кар 12, 26). Таму асабліва каштоўнай з'яўляецца міласэрнасць да хворых і ўсякі сардэчны клопат пра іх. Вялікую ролю ў аказанні палёгкі хворым адыгрываюць, у першую чаргу, урачы. Аднак не варта забывацца пра тое, што не менш значная роля ў падтрымцы людзей, якія пакутуюць ад розных захворванняў, адводзіцца іх блізкім, а таксама шпітальным душпастырам. Менавіта яны ўмацоўваюць хворых словамі і малітвай, даручаюць іх церпячаму і праслаўленаму Пану.**

● працяг на с. 3

### Каляндар падзей

***14 лютага***
*Свята св. Кірыла, манаха, і св. Мятода, біскупа, заступнікаў Еўропы.*

***22 лютага***
*Свята катэдры св. апостала Пятра. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі Святога Айца Францішка і Паўсюднага Касцёла.*

***23 лютага***
*Тлусты чацвер. Захавайма прыгожую традыцыю. Няхай у гэты дзень у нашых дамах пахне найлепшай выпечкай.*

### Ружанцовыя інтэнцыі

***Люты***
*Аб здароўі для хворых, аблягчэнні ў цярпеннях і шчаслівай смерці для паміраючых. Аб развіцці душпастырства хворых, асабліва ў бальніцах і медыцынскіх клініках. Аб дары плённай падрыхтоўкі да дыяцэзіяльнага сінода.*

### Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь-4".*
***Чарговы выпуск – 4 красакавіка.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Праведзены з хворым час – святы час". Папа Францішак**




### VI НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мц 5, 20–22а. 27–28. 33–34а. 37**

Езус сказаў сваім вучням: “Кажу вам: калі справядлівасць вашая не пераўзыдзе справядлівасці кніжнікаў і фарысеяў, то вы не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае. Вы чулі, што было сказана продкам: «Не забівай»; а хто заб’е, падпадае пад суд. А Я кажу вам, што кожны, хто гневаецца на брата свайго, падпадае пад суд. Вы чулі, што сказана: «Не распуснічай». Я ж вам кажу: кожны, хто з пажадлівасцю глядзіць на жанчыну, ужо ўчыніў з ёю распусту ў сэрцы сваім. Вы чулі, што сказана было продкам: «Не прысягай фальшыва, а выконвай перад Богам прысягі свае». Я ж кажу вам: не прысягайце наогул. І няхай будзе слова вашае «так – так», «не – не». А што звыш гэтага, тое ад злога”.

## УСЕ НЕ БЕЗ ГРАХУ

У часы хрысціянскай старажытнасці за забойства, чужаложства і крывапрысяжніцтва на пэнітэнтаў падчас споведзі накладваліся доўгатэрміновыя пакуты на некалькі гадоў, а нават і на некалькі дзясяткаў год. Хрыстос тлумачыць гэтыя сур’ёзныя парушэнні Божага Закону яшчэ больш шырока. Гаворыць, што не толькі фізічнае забойства, але гнеў на іншых, інакш кажучы, забойства ў сабе любові да бліжняга – цяжкі грэх; што распуста можа быць як відавочнай, так і схаванай у сэрцы ў выглядзе “пажадлівасці вачэй”, якую большасць, на жаль, не лічыць грахом; што плёнам чалавечай легкадумнасці не павінна быць прысяга, якая моцна звязвае людзей паміж сабой.

Езус папярэдзіў тых, каму здавалася, што ён бязгрэшны, бо “нікога не забіў, ні з кім не чужаложыў, прысягі не складаў”. Ці гэтая думка не забівае ў табе праўды аб тым, што і сам патрабуеш Божай міласэрнасці?

### VII НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мц 5, 38–48**

Езус сказаў сваім вучням: “Вы чулі, што сказана: «Вока за вока і зуб за зуб». А Я вам кажу не праціўцеся злому. Калі хто ўдарыць цябе па правай шчацэ тваёй, падстаў яму і другую. І калі хто захоча судзіцца з табою і ўзяць у цябе кашулю, аддай яму і плашч. І калі хто цябе змусіць ісці з ім адну мілю, ідзі з ім дзве. Таму, хто просіць у цябе, дай і не адварочвайся ад таго, хто хоча пазычыць у цябе. Вы чулі, што сказана: «Любі бліжняга свайго і ненавідзь ворага свайго». А Я кажу вам: любіце ворагаў вашых і маліцеся за тых, хто пераследуе вас, каб сталіся вы сынамі Айца вашага, які ў нябёсах. Бо Ён загадвае сонцу свайму ўзыходзіць над дрэннымі і добрымі і пасылае дождж на справядлівых і несправядлівых. Бо, калі вы будзеце любіць тых, хто любіць вас, якую маеце ўзнагароду? Ці ж не тое самае робяць і мытнікі? І калі вітаеце толькі братоў вашых, што асаблівага робіце? Ці ж не тое самае робяць і язычнікі? Таму будзьце дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны”.

## ПАКОРЛІВАСЦЬ ВУЧНЯЎ ХРЫСТА

Напэўна, няма аніводнага чалавека на зямлі, які хацеў бы мець ворагаў. Аднак у кожнага знойдзецца пэўная колькасць праціўнікаў – тых, каму ён або яго ўчынкі не падабаюцца. Непрыяцелем можа стаць любы бліжні, нават сваяк, з якім не ладзім. Але варта ўсведамляць, што ніхто не нараджаецца ворагам – людская пыха настройвае людзей адзін супраць аднаго.

Факт існавання праціўнікаў з’яўляецца праблемай для чалавека. Але ці гэта азначае, што трэба выкрасліць іх са спіса асоб, з якімі маем зносіны, сцерці іх імя з памяці або нават знішчыць фізічна ці псіхічна?

Вучэнне Хрыста адназначна адмаўляе падобны спосаб вырашэння праблемы. Такім чынам, трэба “знішчыць” не бліжняга, але сіндром “ганарыстага парсюка”, а таксама “баксёрскай грушы” ўнутры нас. Нельга папускаць граху бліжняга, але адначасова належыць навучыцца яму ўступаць, калі гэта неабходна. Пакорлівасць, спалучаная з разважлівасцю, – вось сродак, які пераўтварае “ворагаў” у сапраўдных вучняў Хрыста.

*Кс. Павел Эйсмант*

# Цярпенне вядзе да паўнаты жыцця



## Слова рэдактара

*Кс. Юрый Марціновіч*

*Мы штодзённа з’яўляемся сведкамі фізічнага і духоўнага цярпення маладых і старэйшых, багатых і бедных людзей. Яно закранае і вучоных, і неадукаваных, тых, хто мае ўладу, і звычайных грамадзян. Прысутнічае ў жыцці як веруючых, так і далёкіх ад веры асоб. Цярпенне з’яўляецца адной з праблем, з якой чалавецтва змагаецца на працягу тысяч гадоў, увесь час нанова шукаючы адказы на мноства звязаных з ім пытанняў.*

Вядомы французскі пісьменнік Анатоль Франс некалі напісаў: “Гісторыю ўсіх людзей можна перадаць 3-ма словамі: нараджэнне, цярпенне, смерць”. Толькі ў дзіцячых казках і выдуманых апавяданнях героі жывуць доўга і шчасліва. У рэальным жыцці ж адбываецца інакш – пакуты складаюць істотную частку зямнога існавання.

Часта цярпенне з’яўляецца таямніцай, бо перарастае нашу здольнасць разумення. Чалавек не можа поўнасцю яе зразумець, так сама, як не можа ўнікнуць у іншыя таямніцы веры, бо яны знаходзяцца ў Божых руках. Мы здольны зразумець каштоўнасць і неабходнасць цярпення ў духу веры. Аднак, калі яно закранае нас, з цяжкасцю можам яго прыняць, бо баімся болю і ўласнай слабасці. Гэта складанае выпрабаванне для нашай веры. У такія моманты часта здаецца, што свет несправядлівы. Нярэдка тады, пакрыўдзіўшыся на Бога і людзей, мы выказваем свой пратэст і злосць, замыкаемся ў сабе. Губляем жаданне жыць і сам сэнс жыцця. Хочам як мага хутчэй з гэтым пакончыць.

Але калі прымаем цярпенне і згаджаемся з ім, яно становіцца ўзбагачальным вопытам, і нават блаславеннем. Так адбываецца, калі чалавек, які перажывае цярпенне, нібы кідаецца ў абдымкі Езуса, пакутуе разам з Ім. Такая пастава адкрывае вочы на многія справы, якія здаваліся няважнымі, вучыць пакоры.

Цярпенне, прынятае як выпрабаванне, можа ўмацаваць веру, а часам дапамагае знайсці Бога нанова. Гэта таксама сустрэча з Панам, хоць і можа здавацца, што Ён пакідае чалавека ў цярпенні. Бо Бог прысутны там, дзе здзяйсняецца таямніца пакут. Цярпенне з’яўляецца пакліканнем да яшчэ большай любові. А любоў – гэта паўната веры.

11 лютага бягучага года мы адзначалі 25-ты Сусветны дзень хворых. Устанаўліваючы гэтае свята, св. Ян Павел II хацеў звярнуць увагу вернікаў на хрысціянскі сэнс цярпення. Аднак гэта не толькі свята ўсіх хворых, але і дзень рахунку сумлення для здаровых людзей. Сёння, калі мы зачыняемся на “надворках” уласных клопатаў і праблем, часта такім жа чынам закрываемся на патрэбы іншага чалавека. Гэты дзень усім здаровым людзям павінен прыгадаць пра церпячых братоў, зрабіць адчувальнымі да бліжняга, заахвоціць да добрых учынкаў, а ўсіх пакутуючых – навучыць пакоры і поўнаму даверу сваіх штодзённых клопатаў Пану Богу, дапамагчы ўсвядоміць, што праз сваё цярпенне яны здольны ўчыніць шмат дабра.

**Дарагія Чытачы!**

Трэба памятаць, што кожнае цярпенне мае збаўчы сэнс – вядзе да паўнаты жыцця. Прыняцце духоўных ці цялесных пакут у значнай меры залежыць ад веры і ўнутранай паставы. Дык няхай у нашым жыцці будзе месца для малітвы аб зразуменні вартасці цярпення, аб адкрытых сэрцах і мужнасці, каб прыняць крыж, які Пан дае кожнаму з нас.




# Кім былі пастушкі з Фацімы?



**У жыццё траіх пастушкоў увайшоў сам Бог і даручыў ім перадаць Пасланне, скіраванае ўсяму свету. Луцыя, Францішак і Гіяцынта не толькі асабіста стараліся выканаць пажаданні Марыі, але і ішлі да іншых, каб пераканаць людзей у сапраўднасці аб’яўленняў і заахвоціць іх да малітвы. Дзеці сталі здольнымі да герaічных ахвяр, складзеных з любові да Езуса за навяртанне грэшнікаў і адплату за грахі, здзейсненыя супраць Беззаганнага Сэрца Марыі. Іх хваляваў лёс грэшнікаў. Спачуванне да загубленых людзей узрасло яшчэ больш пасля таго, як Марыя паказала ім пекла.**

**Аднойчы Францішак і Гіяцынта пачулі ад Маці Божай, што ў хуткім часе адыдуць у неба. Прынялі гэта са спакоем, што сведчыла аб сталасці іх веры. А Луцыі Марыя сказала, што, згодна з жаданнем Пана Езуса, яна будзе жыць доўга, каб вучыць людзей годна ўшаноўваць Яе Беззаганнае Сэрца.**

**У хуткім часе пасля атрымання Паслання Францішак і Гіяцынта памерлі. У маі 2000 года былі беатыфікаваны папам Янам Паўлам ІІ. Літургічны ўспамін блаславёных Гіяцынты і Францішка Марто – 20 лютага. А Луцыя далучылася да кармэлітак босых. Адышла ў вечнасць значна пазней, у 2005 годзе. Зараз працягваецца дыяцэзіяльны этап працэсу яе беатыфікацыі, які павінен у хуткім часе скончыцца.**

## БЛАСЛАЎЛЁНАЯ ГІЯЦЫНТА МАРТО

Нарадзілася 11 сакавіка 1910 года ў Алжуштрэл (Партугалія). Ніколі ні на што не наракала і цешылася тым, што мела. Кожны вечар прасіла бацькоў і родных супольна памаліцца Ружанец. Запрашала да малітвы суседзяў. Заўсёды жадала шчасця іншым людзям.

Аб’яўленні Маці Божай абудзілі ў дзяўчынцы глыбокую літасць і спачуванне да грэшнікаў з-за цярпенняў, якія чакалі іх пасля смерці. Таму часта малілася аб навяртанні і здзяйсняла епітым’ю ў іх інтэнцыі, што стала характэрнай рысай яе духоўнасці. “Гіяцынта так моцна прыняла ў сваё сэрца ахвяры за навяртанне грэшнікаў, што не прапускала ніводнай нагоды для гэтага, – успамінала Луцыя. – Дзеці з двух сем’яў, якія жылі ў Мойта, хадзілі жабраваць. Аднойчы, ідучы на пашу са статкам, мы іх сустрэлі. Заўважыўшы дзяцей, Гіяцынта сказала: «Давайце аддадзім гэтым бедакам свой пасілак за навяртанне грэшнікаў». І пабегла, каб занесці яго. (...) Як толькі мы бачылі гэтых дзяцей, Гіяцынта аддавала ім наш дзённы пасілак. Прытым, з такой радасцю, нібы не адчувала яго адсутнасці”.

Па натуры дзяўчынка была вельмі жвавай. А падчас першага аб’яўлення ўважліва слухала Маці Божую, не прамовіўшы ні слова.

“Аднойчы нас наведалі 2 ксяндзы, – узгадвае Луцыя, – задавалі пытанні. Параілі маліцца за Святога Айца. Гіяцынта запыталася ў іх, хто ён такі. Святары растлумачылі і звярнулі ўвагу, што той моцна патрабуе малітвы. З гэтага часу Гіяцынта ўзбудзіла ў сабе такую вялікую любоў да Святога Айца, што заўсёды, складаючы Езусу якуюсьці ахвяру, дадавала: «І за Святога Айца»”.

У снежні 1918 года Гіяцынта захварэла на іспанскі грып, у выніку чаго атрымала гнойную пнеўманію з мноствам ускладненняў. Падчас аперацыі 10 лютага 1920 года ёй выдалілі 2 рабры. Праз некалькі дзён дзяўчынка паведаміла сваім блізкім, што дрэнна сябе адчувае і хутка памрэ. Да хворай прыбыў святар, каб выслухаць яе споведзь. Вечарам 20 лютага 1920 года гэтую маленькую кветку Прыгожая Панна правяла ў Неба.

Усведамляючы тое, што ўдзельнічае ў вялікіх Божых планах, малая дзяўчынка з адкрытым сэрцам прымала ўсе цярпенні і радасна ператварала іх у ахвяру адкуплення і малення за грэшнікаў. Была глыбока пераканана, што яны з’яўляюцца выратаваннем для тых, каму гэта больш за ўсё неабходна.

Блаславёная Гіяцынта прыгадвае нам, што Пан Бог, багаты на міласэрнасць, патрабуе ад чалавека ахвяры як адкуплення за грахі. Вучыць, што пакуль мы не зменім сваё жыццё і не станем як дзеці, не ўвойдзем у Валадарства Нябеснае (параўн. Мц 18, 1–5).

*У наступным нумары чытайце пра бл. Францішка Марто.*

***Кс. Юрый Марціновіч***

# Даць церпячым надзею і ўпэўненасць у Божым суцяшэнні



Кс. біскуп Аляксандр Кашкевіч наведвае хворых у Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы

працяг са с. 1

## МЕСЦА, ДЗЕ ШУКАЮЦЬ ПАРАТУНКУ І СУПАКОЮ

Сёлета спаўняецца 7 гадоў ад моманту асвячэння капліцы свсв. Космы і Дам'яна, што знаходзіцца ў Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы – месцы, дзе людзі сустракаюцца з хваробай і цярпеннем, судакранаюцца з рэчаіснасцю, якой дагэтуль не ведалі.

Шпітальная капліца адкрыта кругласутачна. Тут ці непасрэдна ў палатах удзяляецца сакрамант намашчэння хворых па просьбе саміх пацыентаў альбо іх блізкіх. Кожны дзень у капліцы цэлебруецца св. Імша (у будня дні ў 15.00, у нядзелю ў 12.30), існуе магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння. Таксама тут ёсць абраз Езуса Міласэрнага, перад якім штодзённа адмаўляецца Вяночак да Божай міласэрнасці.

На набажэнствах заўсёды збіраецца шмат людзей, якія прагнуць сустрэць Бога – Найвышэйшага Лекара. Яны прыходзяць у капліцу, каб паспавядацца, прасіць памаліцца за іх, замаўляюць св. Імшы. Часам хочуць проста пагаварыць са святаром. Таму я заўсёды даступны для пацыентаў і медперсаналу, рады ім дапамагчы ў вырашэнні розных жыццёвых праблем. Вельмі цаню магчымасць несці паслугу сярод хворых і тых, хто ім служыць.

## НЕ ТОЛЬКІ АБЛЕГЧЫЦЬ ЦЯЛЕСНЫЯ ЦЯРПЕННІ, АЛЕ І ВЫЛЕЧЫЦЬ ДУШУ

Хворы чалавек чакае хуткай і эфектыўнай дапамогі. Па меншай меры такой, якая дасць яму магчымасць нармальна функцыянаваць у навакольнай рэчаіснасці. Гэтыя чаканні канкрэтным чынам павінен апраўдаць урач: ён мусіць быць тым, хто праз свае дзеянні і веды дапаможа чалавеку вярнуць страчанае здароўе.

Святар, у сваю чаргу, павінен прысвяціць свой час хвораму, аднесціся да чалавека з павагай і цярплівасцю, зычліва паразмаўляць з ім, абмеркаваць складаную сітуацыю. Паколькі падчас паслугі душпастыр сустракае ў бальніцы розных людзей, яму нельга абмяжоўвацца выключна выкананнем пастырскіх абавязкаў: адпраўленнем св. Імшы, удзяленнем Камуніі... Адным словам, трэба рабіць усё тое, што і кожны святар: умець супакоіць, падбадзёрыць, аслабіць напружанасць паміж хворым і яго сям'ёй, часам проста ўзяць пацыента за руку і пабыць побач з ім. А ў тыя моманты, калі прыходзіцца трываць пры безнадзейна хворым чалавеку, неабходна праявіць такт і спачуванне, акуратна падказаць сям'і хворага, як з ім развітацца. Гэта вельмі цяжка, бо мы не любім адчуваць сябе беспадаможнымі.

Якасці, якімі павінен валодаць шпітальны душпастыр, нідзе не прапісаны, ім не навучаюць. Таму трэба штодзённа фарміраваць характар і прыпамінаць сабе, каму мы павінны служыць. Слова "служба" з'яўляецца найбольш прыдатным у адлюстраванні сутнасці такой працы. Толькі сумленнае служэнне хворым людзям можа стаць сапраўдным прызваннем.

## ХВАРОБА – ЗАЎСЁДЫ ВЯЛІКІ ВОПЫТ

Прабыванне ў шпіталі часамі адкрывае чалавеку вочы на важныя рэчы, якія дагэтуль былі адкінуты на задні план, дазваляе задумацца аб уласным жыцці, яго мэце і сэнсе. Гэта таксама шанс на аднаўленне кантакту з Богам, які нярэдка пакідаўся без увагі дзясяткі гадоў. А часам знаходжанне ў бальніцы суправаджаецца ўнутраным бунтам, неразуменнем Божай волі. У сэрцы чалавека адбываецца барацьба. Таму для адных хвароба і цярпенне з'яўляюцца магчымасцю руплівага адчування прысутнасці Пана ў малітвах і сакрамантах, а для іншых – часам адыходу ад Бога і адмаўлення Яго Провіду.

Працуючы ў шпіталі, штодня чую пытанні: "Чаму я хварэю?", "Чаму менавіта я?", "Ці пакуты маюць сэнс?". Цярпенне спатыкае нас усіх. Няма ніводнага чалавека, які б на працягу свайго жыцця не адчуваў болю. Часта здараецца, што цярпенне знікае разам з хваробай, але тое, што чалавек перажыў, пакідае ў душы след. Людзі становяцца больш адчувальнымі на пакуты бліжніх, адкрываць іншыя каштоўнасці ў жыцці, набліжаюцца да Бога праз малітву, пачынаюць усведамляць, што яна прыносіць супакой, дапамагае зразумець некаторыя рэчы, а пачуццё блізкасці Усявышняга дае моц трывання і ўказвае дарогу ратунку. Калі чалавек цярпіць, Бог прапануе выратавальнае вымярэнне перажывання цярпення. Выбар належыць самому чалавеку.

## КОЖНЫ ХВОРЫ ПАТРАБУЕ НАДЗЕІ

Выражэннем любові да хворага з'яўляецца не толькі шчыры клопат аб ім, але і псіхалагічная падтрымка з боку блізкіх і сваякоў. Яна выражаецца ў прысутнасці, гатоўнасці слухаць нават непрыемныя, горкія словы, у будаванні ў хворым надзеі.

Асоба адчувае падтрымку, калі можа адкрыць сваё сэрца, думкі і пачуцці, не баючыся незразумення. Але каб дапамога была эфектыўнай, яна мусіць быць дадзена і прынята. Калі хворы замыкаецца ў сабе, выражае толькі свой жаль, расчараванне і нязгоду з цярпеннем, а таксама чакае магічнага выздараўлення, падтрымка не прынясе чаканага выніку. Тады блізкім застаецца толькі быць побач, трываць пры хворым і чакаць хоць самага дробнага жэсту адкрытасці на дапамогу.

*Кс. Алег Кудэрка, душпастыр у Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы*

**Адкуль бяруцца хваробы, як іх прыняць і вылечыць?**

Цела, розум і душа чалавека з'яўляюцца адзіным цэлым. Калі пакутуе цела, трэба спытацца, што адбываецца ў розуме чалавека ці ў яго душы. Псіхасаматыка прапануе ключ, які дазваляе адчыніць дзверы да ведаў пра тое, якія псіхічныя ці духоўныя прычыны ляжаць у аснове хвароб, якія жыццёвыя праблемы ці неўсвядомленыя псіхалагічныя аспекты ствараюць енергетычную дызгармонію, што, у сваю чаргу, праяўляецца як немач. Разуменне прычын і праца над узняццем узроўню энергіі ў арганізме дазваляюць вылечыць многія хваробы. Складваецца ўражанне, што сёння ў нас збіліся мэты, да якіх імкнёмся, і сродкі, якія для гэтага выкарыстоўваем. Не верыце? Падумайце, хаця б, пра пастановы, абмежаванні і "рэвалюцыі" ў сваіх паводзінах, на якія рашаецеся ў Адвэнце ці Вялікім посце.

**Як чалавек павінен успрымаць сваю хваробу?**

Кожная хвароба ахоплівае знянацку, звязана з шокам і моцным стрэсам. Некаторыя могуць зарыентавацца ў новай сітуацыі, а некаторыя губляюцца. Хвароба палохае не толькі перспектывай страты здароўя, але і сваімі наступствамі. Чалавек баіцца, што жыццё ўжо не будзе такім, як раней. Цяжэй за ўсё перааадолець сітуацыі, што выбіваюць з папярэдніх рамадскіх функцый, якія дазвалялі акрэсліць уласную вартасць і былі сэнсам жыцця. Немагчымай становіцца праца (ці змяняецца яе ўзровень), нягледзячы на тое, што яна была захапленнем, далейшая рэалізацыя ў сваёй прафесіі. Часам з-за хваробы трэба адмовіцца ад хобі, занятках любімым відам спорту, таго, што расслабляе і зараджае энергіяй. У такой сітуацыі чалавек, найперш, павінен навучыцца з гэтым жыць. Важны таксама і камфорт жыцця. Боль, ізаляцыя ад наваколля і адзінота – гэта другое дно кожнай хранічнай хваробы.

З нядаўняга часу шмат гавораць пра Ніка Вуйчыча. Хоць ён не мае ні рук, ні ног, жыве поўным жыццём. З'яўляецца шчаслівым мужам і бацькам. На працягу некалькіх гадоў Нік сустракаецца з людзьмі, каб абвяшчаць надзею тым, хто сумняваецца. Хваліць Бога за цудоўных любячых бацькоў, дзякуючы якім стаў самастойным. Хвароба, з якой жыве, не абмежавала яго актыўнасць. Сіла гэтага чалавека ў жаданні жыць і дзяліцца ім з іншымі. Нік – сведка Божага ўздзеяння і выкарыстоўвання свабоды, якую ў яго не адабрала хвароба. Рэкамендую паглядзець 20-хвілінны фільм "Цырк Матыльоў", што стаў для многіх надзеяй на непаўторнае жыццё.

Хвароба не з'яўляецца мэтай, а толькі сродкам да таго, каб згадзіцца на прысутнасць Бога ў сваім цэнным жыцці. "Гэтая хвароба не вядзе да смерці, але да славы Божай, каб Сын Божы праславіўся праз яе" (Ян 11, 4).

**Ці з'яўляецца хвароба пакараннем за грахі?**

Не, хоць многія так лічаць. Я кожны тыдзень спатыкаю цяжка хворых людзей, якіх збянтэжыла раптоўнае выяўленне хваробы. Яны кажуць, што гэта прыгавор. Спачатку пасля ўсведамлення дыягназу наступае шок, а затым чалавек пачынае пытаць "чаму?" і звяртаецца за адказам да Бога. Часта з'яўляецца думка, што хвароба – кара за грахі. Людзі жывуць у пазначанай грахом рэчаіснасці, і таму кожны, нават самы высакародны чалавек, знойдзе ў сваім жыцці момант, пра які можа сказаць, што менавіта за гэта Пан яго пакараў. Часта сустракаю такіх пацыентаў. Між тым, Бог не карае за грахі, бо Ён міласэрны. Трэба глядзець на гэта менавіта такім чынам, таму што ў адваротным выпадку ў сэрцы чалавека дэфармуецца вобраз Усявышняга. Ён жа пастаянна знаходзіцца побач з пакутуючай асобай, дапамагае ёй несці крыж цярпенняў.

Калі хтосьці лічыць хваробу пакараннем, яго цяжка пераканаць у тым, што не мае рацыі, што не правіўся. Такому чалавеку неабходны індывідуальны падыход. Нялёгка дастукацца да кожнага, але калі ўдаецца, гэта вельмі цудоўна. Заўсёды стараюся падводзіць чалавека да любові, каб у ёй хворы шукаў адказы на самыя складаныя пытанні. Я перакананы, што пасля ўсталявання асабістых адносін з Богам, адказ любові прыйдзе сам – невядомым чынам, паколькі гэта таямніца.

**Чаму Бог дапускае цярпенні з-за хваробы?**

Найперш Пан дапускае хваробы для адкуплення грахоў, змены сапсаванага ладу жыцця, усведамлення амаральнасці і таго факту, што зямное жыццё – толькі кароткая хвіліна, пасля якой надыходзіць вечнасць. Якой яна будзе залежыць ад жыцця кожнага з нас на зямлі. Сёння таксама часта хварэюць дзеці. Гэтае няшчасце павінна змяніць бяссэнсавае жыццё тат і мам, прымусіць іх да рэфлексіі і змены, ачышчэння ад запалу і недахопаў.

Хваробы патрэбныя таксама для таго, каб навучыць чалавека пакоры і не дапусціць дрэнных і згубных учынкаў. Аднаго разу Хрыстос з вучнямі ўбачылі бязногага ад нараджэння чалавека. Ён сядзеў пры дарозе і прасіў міласціну. Вучні запыталіся ў Настаўніка, чаму той не мае ног. Езус адказаў: "Калі б ён меў ногі, то з агнём і мячом прайшоў бы праз усю зямлю". Часта Бог праз хваробу вырывае нас са звычайнага ходу жыцця, аберагаючы ад сур'ёзных няшчасцяў. Пры дапамозе малой бяды ратуе ад вялікай.

Шматлікія хваробы з'яўляюцца ў выніку дзеяння нячыстых духаў. Сімптомы д'ябальскіх нападаў бываюць вельмі падобнымі на натуральныя хваробы. З Евангелля адназначна вынікае, што аздароўленая Хрыстом згорбленная жанчына не была апанаванай, але прычынай яе хваробы было дзеянне нячыстага духа (параўн. Лк 13, 11–26). У такіх выпадках медыцына бяссільная, а аздараўленне магчымае толькі дзякуючы Божай моцы, якая выганяе злога.

Хрысціянскі падыход да хвароб палягае на ўсведамленні грахоў, за якія можа быць атрымана пакута, і на пакорным прыняцці Божай волі ў раскаянні разам з жаданнем змяніць жыццё. Малітва, пост, міласціна і іншыя духоўныя практыкі дапамагаюць уміласцівіць Пана, які аздараўлівае. Калі ж ідзём да ўрачоў, просім Божага благаслаўлення на лячэнне і даручаем лекарам сваё цела, але не душу.

*Кс. Юрый Бяганскі*




## Малітва за хворых і церпячых

**Божа, Ойча наш, няхай Твой Провід чувае над хворымі і церпячымі, каб яны не марнавалі цярпення, а ўмелі яго ўплятаць у Тваю службу і далучалі яго да ахвяры Хрыста. Дай, Ойча найлепшы, усім пакутуючым ласку добрага, плённага перажывання болю, дадавай сіл і бадзёрасці, суцяшай, беражы, наколькі гэта магчыма, дазволь несці ім палёгку. Накармі іх, Ойча, Целам Твайго Боскага Сына. Жыві ў іх і будуй сваё Валадарства. Дазволь рэалізавацца пакліканням хворых, блаславі супольнасці хворых. Дазволь церпячым быць карыснымі для бліжніх і Касцёла. Няхай Дух Святы вядзе іх да святасці і вечнага шчасця. Амэн**

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

**Папа Францішак**



*Калі жанчына даведваецца, што зацяжарыла, кожны дзень вучыцца жыць у чаканні таго моманту, калі ўбачыць позірк дзіцяці, якое народзіцца... Таксама і мы павінны жыць у чаканні таго, што ўбачым Пана, знойдзем Яго. Гэта нялёгка, але гэтаму магчыма навучыцца. Перш трэба мець пакорнае сэрца. Толькі сціплы ўмее чакаць. Задаволены сабой і тым, што мае, чалавек не здольны давяраць нікому, апроч самога сябе.*

*Маё сэрца кранае выраз св. Паўла, скіраваны да Тэсаланікійцаў. Ён напаўняе ўпэўненасцю надзеі: "І гэтак назаўсёды будзем з Панам" (1 Тэс 4, 17). Як гэта цудоўна! Усё праміне, але пасля смерці мы асягнём вечнае жыццё з Богам. Тую ж надзею нашмат раней выказваў Ёў: "Я ведаю: Адкупіцель мой жыве. [...] Убачу Яго сам; вочы мае, а не іншага, убачаць Яго" (Ёв 19, 25. 27). І так назаўсёды будзем з Панам. Ці верыце вы ў гэта?*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 01.02.2017*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Сутнасць кансэкраванага жыцця, незалежна ад форм, у якіх яно рэалізуецца, заўсёды застаецца нязменнай. Гэта дар, які манах або манахіня складае з любові да Пана Езуса, а ў Ім – да кожнага чалавека. Самаахвяра выяўляецца ў радыкальным практыкаванні евангельскіх парад: убоства, чыстасці і паслухмянасці. Ступаючы на асаблівы шлях наследавання Езуса Хрыста, кансэкраваныя асобы даюць сведчанне, што такая поўная, выключная, непадзельная любоў да Бога з'яўляецца магчымай.*

*Гэта праўда, што ісці дарогай евангельскіх парад цяжка: адрачэнні робяць манаскую асобу падобнай да Хрыста з крыжом на плячах. Але досвед асаблівай, адзінай у сваім родзе сувязі любові паміж Езусам і кансэкраванай асобай – гэта вялікая цудоўная Божая ласка, якая напаўняе сэрца глыбокай радасцю, унутраным супакоем і сапраўдным шчасцем. Падзякуем Богу за тое, што не перастае адорваць сваіх выбраных дзяцей такім прыгожым пакліканнем.*

*Фрагмент гамііліі, прамоўленай падчас Дыяцэзіяльнай сустрэчы кансэкраваных асоб, 01.02.2017*




◆ *У дзень складання прысягі прэзідэнтам ЗША Дональдам Трампам папа Францішак накіраваў у Вашынгтон тэлеграму. У сваім пасланні Святы Айцец напісаў новаму кіраўніку дзяржавы: "Перадаю сардэчнае прывітанне і запэўніваю ў сваіх малітвах аб тым, каб Усемагутны даў Вам мудрасць і сілу ў выкананні абавязкаў на гэтай высокай пасадзе". Далей паведамлялася: "Прашу аб тым, каб Вашымі рашэннямі кіравалі багатыя духоўныя і этычныя каштоўнасці, якія стварылі гісторыю амерыканскага народа, а таксама аб удзеле Вашай краіны ў пашырэнні годнасці і свабоды чалавека ва ўсім свеце".*

◆ *Падчас агульнай аўдыенцыі ў зале Паўла VI папа Францішак сустрэўся з Арнольдам Шварцэнэгерам. Вядомы акцёр і палітык, заснавальнік грамадскай арганізацыі па праблемах экалогіі адзначыў, што мае вялікі гонар прывітацца са Святым Айцом. Шварцэнэгер падзякаваў Пантыфіку за клопат пра людзей і падарыў яму кнігу "Каліфорнія: залатая зямля запаветная", выказваючы надзею, што праблемы забруджвання навакольнага асяроддзя "нам удасца вырашыць раз і назаўжды".*

◆ *Каля 40% замежных турыстаў, якія праводзяць водпуск у Партугаліі, накіроўваюцца ў Фаціму. Разам з распачатым юбілеем, звязаным са 100-годдзем марыйных аб'яўленняў у Фаціме, бягучы год можа аказацца рэкордным з пункту гледжання колькасці наведвальнікаў, якія прыязджаюць сюды з-за мяжы. Значны ўплыў на гэты вынік можа мець візіт папы Францішка ў санктуарый. У сувязі з вялікай папулярнасцю Святога Айца, можна чакаць тлумаў таксама падчас яго візіту ў Фаціме 12–13 мая.*

◆ *Капуцыны выдалі "нябачную" кнігу: без маляўнічай вокладкі, без назвы, з пустымі старонкамі. Каб яе прачытаць, трэба выйсці на мароз. Ідэя палягае на тым, каб наблізіцца да сітуацыі бяздомных. Аўтары праекта натхняюць чытачоў заўважыць "нябачных", звярнуць увагу на іх праблему. У выданні змяшчаюцца творы, аўтарамі якіх з'яўляюцца падапечныя капуцынскага фонду імя бл. Аніцэта Коплінскага ў Варшаве (Польшча). Праз набыццё кнігі любы жадаючы можа падтрымаць людзей у патрэбе.*

◆ *"Рэал Мадрыд" пагадзіўся прыбраць крыж з кароны, намаляванай на іх гербе. Гэта ўваходзіць ва ўмовы кантракту, падпісанага з кампаніяй "Marka", якая набыла правы на вытворчасць і продаж прадукцыі з сімволікай футбольнага клуба. Дамоўленасць тычыцца вырабаў, арыентаваных на Блізкі Усход. Дарэчы, "Рэал Мадрыд" – не першы еўрапейскі футбольны клуб, які ліквідуе хрысціянскі сімвал пад націскам мусульманскіх бізнес партнёраў. "Барселона" ў свой час таксама адмовілася ад крыжа св. Юрыя на эмблеме, каб прадаваць больш футболак у краінах Блізкага Усходу.*

*credo-ua.org; gosc.pl; deon.pl; ekai.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# Біскуп Юзаф Станеўскі: "Абвяшчаць Евангелле – абавязак усіх вернікаў"

**Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі ў чарговую гадавіну біскупскай сакры – пра выхаванне маладога пакалення, пастырскі доўг і заданні, якія сёння стаяць перад Касцёлам у Беларусі.**

**Ваша Эксцэленцыя, у лютым Вы адзначалі 3-ю гадавіну прыняцця біскупскай сакры. Гэты час быў багаты на розныя падзеі і сустрэчы. Якія з іх найбольш запомніліся і чым?**

"За ўсё дзякуйце Пану", – гаворыць у Святым Пісанні натхнёны аўтар. Таму з радасцю ўспамінаю асаблівы момант дотыку Пана Бога паўнатой святарства праз пастырскія далоні ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча 1 лютага 2013 года і дзякую за чарговую гадавіну пасвячэння. З таго моманту я не столькі змяніўся, колькі ўсвядоміў, што Пан Бог выбраў мяне і праз рашэнне папы Францішка прызначыў і зрабіў здольным да таго, каб ісці і абвяшчаць Евангелле.

Але я лічу, што значэнне мае не колькасць дзён, а сустрэчы з людзьмі, з канкрэтным чалавекам, які шукае дыялогу, хоча пазнаць Божую праўду. Будзь то ў касцёле, на катэхезе ці падчас спатканняў хрысціянскай супольнасці.

Сярод найбольш значных падзей вылучу 2 спатканні з папам Францішкам: падчас пілігрымкі з семінарыстамі ў Рым і на Сусветных днях моладзі ў Кракаве. На іх я набраўся сіл, энергіі, узброіўся хрысціянскай надзеяй на будучыню. Усвядоміў, што каталіцкі Касцёл, хоць і плыве па вірлівым акіяне сучаснага жыцця, адшукае правільны шлях, таму што рулявым з'яўляецца Хрыстос. Гэта Ён вядзе нас і, нават калі людзі трохі сонныя, чувае ды прамаўляе: "Не бойцеся!".

**Папа Францішак кажа, што біскуп павінен быць "пастырам з пахам авечак", што значыць блізкім да людзей. Вы вельмі часта сустракаецеся з вернікамі, і, напэўна, добра ведаеце, чым жывуць людзі, з якімі праблемамі часцей за ўсё сутыкаюцца. Якія яны, вернікі Гродзеншчыны?**

Прамаўляючы гэтыя словы, Святы Айцец меў на ўвазе, каб мы як пастыры жылі і былі з людзьмі штодзённа, ведалі, аб чым яны размаўляюць паміж сабой, якія тэмы і праблемы іх непакояць. Я стараюся справіцца з гэтай задачай, паколькі лічу, што спатканне з чалавекам вельмі важнае. Мне часта здараецца сустракацца з вернікамі, якія просяць канкрэтнай парады, пытаюцца, як паступіць у той ці іншай сітуацыі, а значыць, бачаць ува мне сапраўднага пастыра, які можа дапамагчы. Добра, што чалавек задае пытанні, не баіцца, ідзе, шукае адказы. І важна, каб людзі мелі такую мужнасць – затрымаць пастыра, што праходзіць побач, і пра нешта спытацца. Гэта і нас мабілізуе да таго, каб часцей спыняліся каля сваіх вернікаў.

**Я хацеў бы падзякаваць усім людзям добрай волі, якія маліліся за мяне, асабліва "Маргарыткам", заахвоціць да далейшай малітоўнай памяці. Запрашаю ахвотных таксама адважыцца на такое важнае заданне – малітву за святароў, у тым ліку і за нас, біскупаў.**

Нядаўна я быў на "Вялікай размове з Прэзідэнтам" і больш даведаўся пра штодзённыя праблемы нашага народу, дзяржавы, грамадства. Меў нагоду паслухаць, чым жывуць людзі, да чаго імкнуцца, чым цікавяцца. Пытанні часцей за ўсё датычылі штодзённых матэрыяльных спраў. Я прыйшоў да высновы, што заданнем на будучыню павінен стаць "перазапуск" мыслення людзей. Хлеб мы маем і да хлеба таксама, таму трэба звярнуць увагу на духоўныя справы, на выхаванне дзяцей і моладзі, на тое, каб у нашым паўсядзённым жыцці, у размове з іншым чалавекам было больш дабрыні, любові, мяккасці. Каб кожны, згодна з апостальскім пасланнем "Ідзіце і абвяшчайце свету Добрую Навіну", на працы, на вучобе ці на лаўцы каля дома прамаўляў хаця б па адным слове з Евангелля (патроху, з дня ў дзень, каб гэта не адштурхоўвала, не было назойлівым). Наш свет і грамадства, бясспрэчна, змяніліся б у лепшы бок.



*Кс. біскуп Юзаф Станеўскі з моладдзю Гродзенскай дыяцэзіі "OPEN"*

**А калі казаць пра "згубленых авечак", то што, на Ваш погляд, трэба рабіць, каб людзей, далёкіх ад Бога, станавілася менш?**

Згубленых авечак у нашым грамадстве вельмі шмат. Многія выглядаюць прыгожа і молада, маюць рахунак у банку і аўтамабіль. Аднак, калі паглядзець на іх праз прызму Евангелля, навукі Хрыста і Божых запаведзей, можна заўважыць, што часам людзі, якімі мы захапляемся і якім нярэдка зайздросцім, з'яўляюцца менавіта тымі згубленымі авечкамі.

Як іх паклікаць? Хіба ж не сілком. Часам, канешне, хочацца, каб пасля аднаго казання ці катэхезы сотня або нават тысяча чалавек адразу навярнулася. Аднак у такой сітуацыі найлепшым настаўнікам і паказальнікам з'яўляецца Пан, які ідзе па адну авечку, каб вярнуць яе. Кожны чалавек мае сваю дарогу да Бога, асабліва калі ён ужо быў на гэтай дарозе, але сышоў з яе. Трэба, каб ён не баяўся вярнуцца на шлях, які, на жаль, не заўсёды лёгкі, не заўсёды высланы ружамі. Трэба, каб зразумеў, што на Божым шляху душа знаходзіцца ў бяспецы, і чалавек ніколі не застанецца ў адзіноце, паколькі Хрыстос вядзе яго.

**Вы адказваеце за працу з моладдзю пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Ці ёсць, на Вашу думку, у сённяшніх маладых каталікаў патэнцыял, які можна выкарыстоўваць для рэалізацыі ідэй хрысціянства?**

Безумоўна. Моладзь заўсёды была стымулам для ўсяго грамадства. Гледзячы на яе, дзеці мараць пра тое, каб як мага хутчэй вырасці, стаць незалежнымі ад бацькоў, выбраць сваю дарогу. А старэйшыя людзі адчуваюць трохі зайздрасці і настальгіі, таму што вяртаюцца ў думках у сваю маладосць, калі кожны быў энергічным, здаровым, прыгожым. Таму можна сказаць, што ўсе позіркі накіраваны на моладзь, якая падобна да квітнеючага вясной саду, бо маладыя людзі сапраўды з'яўляюцца кветкамі, надзеяй і ўпэўненасцю.

Як знайсці падыход да моладзі? Некаторыя гавораць, што трэба размаўляць з маладымі людзьмі на іх мове, нават жаргонам. З гэтым я нязгодны, хоць сам часам ужываю якое-небудзь слоўца, каб абудзіць і паказаць, што разумею іх. Скіроўваючы чалавека да дабра, трэба быць з ім, прысвячаць час, каб бачыў, што патрэбны, важны, што пра яго клапоцяцца. І гэта вялікае заданне і выклік для кожнага душпастыра, а асабліва для адказнага за маладых людзей. У прыклад можна паставіць душпастырства "OPEN" разам з яго апекуном кс. Антоніем Грэмзам. Члены супольнасці сапраўды жывуць як адна сям'я.

Важна таксама памятаць пра тое, што чалавек не ахвочы да слухання, але да дзеяння. Маладыя людзі не хочуць слухаць сам змест, бо іх гэта нудзіць. Яны прагнуць, каб Евангелле, праўды веры, запаведзі былі пакладзены на жыццё. Таму з задавальненнем прымаюць удзел у тэатральных пастаноўках, батлейках. Ужываюцца ў ролю святога ці святой, здабываюць з Божага слова нешта прыгожае і новае і перакладаюць яго на сваё жыццё. Варта час ад часу даваць моладзі магчымасць праз прадстаўленне паказаць нядзельны фрагмент Евангелля. Я перакананы, што кожны выкарыстае свой талент у поўнай меры і пакажа равеснікам, што можна жыць Евангеллем і цешыцца гэтага.

Калі казаў пра надзею, якую мы ўскладваем на маладых людзей, мне прыгадалася гісторыя, што некалі адбылася, здаецца, у Грэцыі. Мудрацы дыскутавалі пра заганы грамадства, пазбаўленага маральнасці. У пэўны момант самага старэйшага запыталі, якое рашэнне праблемы ён можа прапанаваць. Стары выйшаў да людзей, працягнуў руку, у якой быў гнілы яблык, і сказаў, што менавіта так выглядае грамадства, пра якое яны толькі што размаўлялі. Затым ён кінуў яблык на падлогу і спытаўся: "Што вы бачыце?". Усе ў адзін голас адказалі, што гніль. Тады мудрэц указаў на зярняты і адзначыў, што яны здаровыя. Таму трэба пра іх паклапаціцца: пасадзіць і дагледзець, каб у будучыні яны прынеслі добрыя плады. Ён меў на ўвазе дзяцей і моладзь, сэрцы якіх здаровыя і высакародныя.

Але мы павінны памятаць, што ў іх душы здольна пранікнуць усё, што бачаць навокал. Таму наша заданне адносна будучыні новага пакалення заключаецца ў тым, каб не падаваць дрэннага прыкладу грахом. Тады ў нас будзе цудоўнае маладое пакаленне, якому можна будзе даручыць і Касцёл, і дзяржаву, і лёс народа. Трэба клапаціцца пра гэтыя зярняты, пра будучыню, якой з'яўляецца моладзь і дзеці.

**Якім Вам сёння бачыцца Касцёл у Беларусі? Чаго яму не стае, над чым яшчэ трэба працаваць?**

Ёсць шмат людзей, якія прыходзяць у касцёл. Але шмат і тых, якія паказваюцца ў святыні час ад часу ці ўвогуле не наведваюць яе – з'яўляюцца ананімнымі каталікамі. Таму неабходна прыкласці ўсе намаганні, каб кожны чалавек адчуў сябе ў Касцёле не толькі патрэбным, але і прысутным. Гэта значыць, што вернік павінен атрымаць голас, каб не толькі адказваць: "І з духам тваім", "Змілуйся над намі". Чалавек сёння хоча гаварыць пра адносіны з Богам сваімі словамі. Важна заахвоціць яго да асабістай малітвы.

Магу тут прывесці прыклад маладога чалавека, які верыў, хадзіў у касцёл, але малітоўных формул яму было замала. З хрысціянскай адвагай ён звярнуўся да ксяндза. Той параіў прыходзіць у касцёл на прыватную малітву і сваімі словамі размаўляць з Панам Богам, выказваць тое, што адчувае да Яго. Хлопец так і зрабіў. Але хацеў таксама адчуць фізічную прысутнасць Бога. Аднойчы пасля малітвы ён сеў у лаву і, змучаны, накрыў галаву рукамі. Раптам адчуў дотык. Гэта была дзяўчына, якая прапанавала папяровую хустачку. Спачатку хлопец не хацеў яе браць, сказаўшы: "Думаеш, што я плачу? Зусім не. Мне не патрэбна хустачка". Але дзяўчына папрасіла ўзяць і паглядзець, што ўнутры. Разгарнуўшы, хлопец убачыў надпіс: "Бог цябе любіць!". Тады яму падалося, што сам Бог дакрануўся да яго.

Гэтая гісторыя вучыць таму, што не трэба баяцца прыгнечанага, сумнага чалавека. Трэба дакрануцца да яго сваёй пяшчотай і любоўю. Бо гэта Пан Бог пасылае нас да яго. Другая важная мараль гэтага апавядання такая: не выпрабоўвай Езуса, паколькі словы "Бог цябе любіць!" ужо напісаны – не ручкай на хустачцы, але крывёю Хрыста на крыжы.

***Кінга Красіцкая***

# “Жалезныя” характарам на рэйкавым шляху



**Збіраючыся ў дарогу, чалавек часам не бачыць далей за касы і вагоны. А ў іх абслугоўванні задзейнічаны сотні работнікаў, якія клапоцяцца пра падарожных. Адначасова з тым чыгуначнікі не забываюцца і пра ўласны шлях, дзе таксама, як і іншыя, з’яўляюцца пасажырамі...**



Члены душпастырства чыгуначнікаў ля фігуры сваёй заступніцы ў Гродне

## ПАД АПЕКАЙ РЭДЭМПТАРЫСТАЎ

Душпастырства чыгуначнікаў з’яўляецца найстарэйшым у Гродзенскай дыяцэзіі. Яно паўстала ў 1994 годзе ў Парэччы. У той час адтуль выходзіў участак першай чыгуначнай лініі, пракладзенай на беларускай зямлі. І закінутая сярод лясоў вёска была, дарэчы, даволі папулярнай. Туды амаль штогод прыязджалі здымачныя групы “Беларусьфільма” і Літоўскай кінастудыі. “Зімародак”, “Двое на востраве слёз” – адны з доўгага спісу фільмаў, у якіх зняты чыгуначны вакзал у Парэччы. Менавіта там, у месцы знаходжання вядомага чыгуначнага вузла, і зарадзілася душпастырства працаўнікоў чыгункі, што прагнулі развівацца духоўна разам.

Паступова цэнтр супольнасці перамясціўся ў Гродна. Тут зараз знаходзіцца асноўная частка душпастырства на чале з душпастырам (увесь час супольнасцю апекаваліся айцы рэдэмптарысты). Яшчэ частку складаюць жыхары Свіслачы, Ваўкавыска, Ліды. Там адбываецца фармацыя на месцах. Усяго каля ста чалавек. Сярэдні ўзрост членаў супольнасці – 40–60 гадоў.

***“Некаторыя ўжо не працуюць на чыгунцы, але да душпастырства па-ранейшаму належаць,*** – заўважае а. Эдуард Пяцельчыц CSsR, які 2-гі год з’яўляецца душпастырам супольнасці. ***– За столькі гадоў людзі паспелі парадніцца. І зараз добра ведаюць адзін аднаго, сябруюць сем’ямі”.***

## НА АСНОВЕ ХРЫСЦІЯНСКІХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

У кожную апошнюю нядзелю месяца члены душпастырства збіраюцца на сумесную св. Імшу. Члены Ружанцовага кола св. Кацярыны Александрыйскай, якая з’яўляецца заступніцай работнікаў чыгункі, мяняюцца таямніцамі Ружанца. Пасля адбываецца сустрэча. Увазе прысутных прапануецца канферэнцыя. ***“Загадзя прадумваем змест сходу, разбіраем хвалюючыя пытанні,*** – распавядае а. Эдуард. – ***Звычайна яны прымеркаваны да тэматычнага года, абвешчанага ў Паўсюдным Касцёле. Яшчэ нядаўна разважалі пра міласэрнасць. Звярталі ўвагу менавіта на гэты аспект у жыцці чалавека. Ладзілі выезды ў Вільнюс, Кракаў, Новую Руду – месцы, непасрэдна звязаныя з аб’яўленнем Божай міласэрнасці чалавецтву”.***

На штомесячныя спатканні збіраюцца каля 30-40 удзельнікаў. Усе разам сустракаюцца на агульных спатканнях. Гэта штогадовыя аплаткавыя і велікодныя сустрэчы. Звычайна туды запрашаюцца госці. Ужо не першы раз, напрыклад, прыязджаюць калегі з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Традыцыйна ў лістападзе, у дзень літургічнага ўспаміну сваёй заступніцы, члены супольнасці збіраюцца разам у парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне.

За час існавання душпастырства яго ўдзельнікі аб’ездзілі амаль усе святыя месцы Беларусі.

## ФАРМАЦЫЯ НА МІЖНАРОДНЫМ УЗРОЎНІ

На працягу многіх гадоў члены душпастырства ўдзельнічаюць у Агульнапольскай пілігрымцы чыгуначнікаў у Чанстахову, дзе збіраюцца прадстаўнікі з розных краін. Традыцыя падтрымліваецца ад заснавання супольнасці. Калі раней ахвотных было некалькі чалавек, то цяпер едзе мінімум аўтобус.

Раз на 3 гады душпастырства прымае ўдзел у Еўрапейскім кангрэсе чыгуначнікаў. У мінулым годзе ён адбываўся ў Любліне (Польшча). Ладзіць мерапрыемства Федэрацыя чыгуначнікаў – каталіцкая структура, якая аб’ядноўвае калег са шматлікіх краін. Прысутныя абмяркоўваюць актуальныя надзённыя пытанні, як бачаць перспектыву сваёй прафесіі ў хрысціянскім плане, што могуць прапанаваць праз сваю працу ў справе абвяшчэння Евангелля. ***“Туды з’язджаюцца людзі, якія не баяцца сведчыць аб сваёй веры ў штодзённым жыцці,*** – гаворыць а. Эдуард. – ***Гэта кангрэс для адважных веруючых”.*** Адзін з удзельнікаў душпастырства Гродзенскай дыяцэзіі на кангрэсе ў Вене (Аўстрыя) прадстаўляў даклад на тэму “Езус у маім жыцці”.

Акрамя таго, члены супольнасці прымаюць удзел у штогадовых велікапосных рэкалекцыях для чыгуначнікаў, якія звычайна праводзяцца ў Вадавіцах (Польшча). ***“Цудоўны час, каб задумацца над жыццём,*** – распавядае Вераніка Вейкшнар. – ***Натхняе і само месца – горад, дзе нарадзіўся і рос Ян Павел ІІ. Мела магчымасць хадзіць яго сцежкамі, глядзець на горад з вокнаў дома, дзе выхоўваўся слынны святы. Дарэчы, з іх адкрываецца від на гадзіннік, пад якім напісаны такія словы: «Час мінае, вечнасць чакае». Глыбока кранулі душу... Двойчы каштоўныя для перажывання такія рэкалекцыі для сужэнскіх пар. Некалькі разоў былі разам з мужам. Гэты час аб’ядноўвае”.***

Для сямей працаўнікоў чыгункі каля Ломска (Польшча) па традыцыі арганізоўваюцца канікулы з Богам. Бацькі разам з дзецьмі жывуць у лесе, у вагончыках. Дыхаюць свежым паветрам, цешацца жывым зносінам. ***“Памятаю, як ксёндз блаславіў жыллё. А перад гэтым мы ўпрыгожвалі яго палявымі кветкамі. Дзеці былі ў захапленні ад атмасферы і магчымасці быць разам на прыродзе”,*** – успамінае Вераніка.



Удзельнікі супольнасці падчас аплаткавай сустрэчы

## БАГАТЫ ПЛЁН ДЗЕЙНАСЦІ

Душпастырства мае свой штандар – асабісты чырвона-блакітны сцяг з выявай заступніцы. Штандар з’яўляецца апазнавальным знакам таго, што спольнасць прызнана як асобная адзінка, якая актыўна функцыянуе згодна з пастаўленай мэтай. На кожную св. Імшу, дзе збіраюцца члены супольнасці, а таксама на афіцыйных сустрэчах перад пачаткам падзеі адбываецца прыгожая цырымонія: са штандарам наперад выходзіць ганаровая варта. Гэты жэст служыць напамінам аб тым, дзеля чаго душпастырства аб’яднана.

Ва ўрачыстасць 150-годдзя Беларускай чыгункі на тэрыторыі парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне была асвечана фігура св. Кацярыны Александрыйскай, усталяваная каля Крыжа чыгуначнікаў і колавай пары. На апошняй аплаткавай сустрэчы кожны з членаў супольнасці атрымаў абразок з выявай заступніцы, сфатаграфаванай на фоне касцёла на Дзевятоўцы. На адваротным яго баку змешчана малітва чыгуначніка. Такую простую і патрэбную хрысціянскую рэч зручна насіць с сабой у кішэні, у кашальку. Да таго, душпастырства мае свой малітоўнік.

***“Існуе наладжаная праграма дзейнасці,*** – падкрэслівае душпастыр. – ***Св. Імшы, агульныя выезды, супольная малітва... На свята Божага Цела чыгуначнікі ў парафіі на Дзевятоўцы ставяць асобны алтар, што з’яўляецца прыгожым сведчаннем іх веры... Для людзей, якія маюць свае сем’і, абавязкі, гэта вельмі добры рытм. Не хочацца яго парушаць. Але толькі падтрымліваць”.***

***Ангеліна Пакачайла***




Душпастырства перад Брамамі міласэрнасці ў Кракаве




Catholic.by

### ІІ Кангрэс медыкаў-хрысціян Усходняй Еўропы пройдзе ў Беларусі

***На форум, які адбудзецца на пачатку мая, запрашаюцца ўрачы, фельчары, медсёстры, студэнты медыцынскіх ВНУ і каледжаў.***

*Мэта кангрэса – аб’яднаць медыкаў у служэнні Богу, сфарміраваць хрыстацэнтрычную матывацыю ў прафесіі. Важнай часткай сустрэчы будзе абмен ведамі і вопытам паміж спецыялістамі з розных краін, а таксама разважанне над складанымі этычнымі дылемамі ў сучаснай медыцынскай навуцы і практыцы.*

*Форум пройдзе дзякуючы медыцынскім хрысціянскім арганізацыям з Беларусі, Малдовы, Расіі і Украіны.*

Nasz Dziennik.pl

### Польскі місіянер адкрыў музычную школу

***Пляцоўка паўстала ў мясцовасці Буар (Цэнтральнаафрыканская Рэспубліка) па ініцыятыве бр. Бенедыкта Пончкі OFMCap. Займацца тут будуць і дзеці, і дарослыя.***

*“У гэтай ідэі ёсць будучыня. Я веру. Людзям неабходна культура, якая зменіць жыццё іх саміх і іншых”, – гаворыць бр. Пончка. У рэпертуар, над якім будуць працаваць вучні музычнай школы, увойдуць, у першую чаргу, афрыканскія творы, што спяваюцца падчас касцёльных набажэнстваў.*

*На першыя слуханні запісалася каля 300 дзяцей. Дарослыя таксама зацікаўлены праектам. Некаторыя гатовы нават паступіцца працай, каб займацца ў вызначаны час.*




### Падведзены вынікі папскай латарэі

***На гэты раз галоўным выйгрышам стаў аўтамабіль “Opel Karl”. Яго цяперашні ўладальнік набыў латарэйны білет праз інтэрнэт.***

*Прызы для розыгрышу прадастаўляе сам Святы Айцец. Гэта каштоўныя рэчы, якія былі падораны яму з розных нагод.*

*Сёлетні 4-ты тыраж дабрачыннай латарэі быў прысвечаны заканчэнню Года міласэрнасці і свяу Божага Нараджэння. Папа Францішак пажадаў, каб выручаныя сродкі былі накіраваны на дапамогу бяздомным і пацярпелым ад землятрусу, які адбыўся ў цэнтральнай Італіі летам мінулага года.*

***Кінга Красіцкая***

## Дыяцэзіяльная сустрэча кансэкраваных асоб прайшла ў Гродне

***Падтрымаць малітвай манаскіх сясцёр і айцоў, якія нясуць служэнне ў Гродзенскай дыяцэзіі, прыбылі шматлікія жыхары горада.***

Сустрэча пачалася ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Прысутныя мелі магчымасць прыступіць да споведзі, паслухаць канферэнцыю, памаліцца перад Найсвяцейшым Сакрамантам.



Кульмінацыяй спаткання стала св. Імша ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. У гэты дзень ён адзначыў 3-ю гадавіну прыняцця біскупскай сакры. У літургіі таксама прыняў удзел Гродзенскі ардынарый Аляксандр Кашкевіч. Іерарх падзякаваў усім манаскім асобам, якія ахвярна служаць у дыяцэзіі, за іх “прыгожае сведчанне веры”, якое рэалізуюць праз сваю паслугу.

Падчас св. Імшы кансэкраваныя асобы аднавілі манаскія абяцанні. Такім чынам яны быццам зноў аддалі сваю любоў Богу, якому цалкам даверылі жыццё, а таксама Касцёлу, які стаў іх Маці. Пацвердзілі, што і далей будуць з вялікай руплівасцю служыць Богу і людзям.

## “Запавет з Богам і чалавекам”

***Уікэнд пад такім дэвізам прайшоў у Наваградку. Адмысловае спатканне для дзяўчат зладзіла манаская супольнасць Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям’і з Назарэта.***

У межах сустрэчы дзяўчаты праслухалі тэматычныя канферэнцыі, падчас якіх кс. Міхал Бубен і с. Клара Волчэк CSFN распавялі, як трэба адказна будаваць адносіны з Богам і іншым чалавекам. Рэкалекцыі далі магчымасць суцішыцца, адасобіцца ад штодзённых спраў і засярodзіцца на малітве.



“У першы дзень задавала Богу пытанне: навошта я тут? І Айцец даў адказ, – дзеліцца Ганна, адна з удзельніц сустрэчы. – Вельмі ўразіў фільм «Бахіта», які прымусіў задумацца над уласным жыццём. Яшчэ спадабалася скрутацыя. Раней я чытала Біблію і не разумела яе. А тут, калі працавала з Божым словам, пачалі з’яўляцца думкі. Я ўсвядоміла, што, каб лепш зразумець урывак з Бібліі, трэба спачатку яго перапісаць”.

## Моладзь Гродзенскай дыяцэзіі – сярод пераможцаў футбольнага першынства

***XXVI Міжнародны турнір па футболе праходзіў у Варшаве (Польшча). Арганізатарам выступіла польскае Каталіцкае спартыўнае таварыства.***

Сёлета ў спаборніцтвах ва ўзроставых групах 9–17 гадоў прынялі ўдзел каманды з Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. Беларусь прадстаўлялі 2 каманды з Гродзенскай дыяцэзіі – “Гродна 2001” і “Гродна 2002”. У іх склад увайшлі гульцы з гродзенскіх парафій Аўгустовак, Вішнявец, Дзевятоўка, катэдра і з парафіі ў Каробчыцах.



Ва ўзроставай катэгорыі 15–16 гадоў каманда з Гродна заняла 2-ое месца, у катэгорыі 14–15 гадоў – 1-ае, атрымаўшы перамогу ва ўсіх 8-мі матчах. Лепшым гульцом турніру прызнаны Уладзіслаў Чэчко, лепшым галкіперам – Вадзім Сляпец, а лепшым апекуном – кс. Артур Малафей, адказны па справах спорту ў Гродзенскай дыяцэзіі.

У ліку задач арганізатараў традыцыйнага турніру – праз заняткі спортам выхаваць у дзяцей і моладзі культуру паводзін падчас гульні і на трыбунах, заахвоціць іх да актыўнай інтэграцыі са сваёй парафіяй, навучыць планаваць асабісты вольны час у паўсядзённым жыцці.

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч асвяціў абраз Езуса Міласэрнага ў Зарачанцы

***У парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі іерарх узначаліў св. Імшу, у якой прынялі ўдзел шматлікія вернікі.***

Як адзначыў падчас урачыстасці пробашч парафіі кс. Віктар Мыслюк, абраз Езуса Міласэрнага з’яўляецца дакладнай копіяй віленскага абраза, напісанага паводле ўказанняў св. Фаўстыны. Ён перададзены парафіяльнай супольнасці ў дар і пасля асвячэння будзе змешчаны ў касцёле. Святар выразіў надзею, што абраз паспрыяе распаўсюджванню культу Божай міласэрнасці ў парафіі.



У той самы дзень пробашч парафіі святкаваў 40-годдзе. З гэтай нагоды біскуп, прысутныя святары, парафіяне і госці выказалі кс. Віктару сардэчныя віншаванні. Вернікі жадалі свайму душпастыру Божай ласкі на далейшыя гады служэння ў парафіі і патрэбных сіл у вядзенні іх да Пана. Дзякавалі за вялікі клопат, якім пробашч атачае святыню, і за кожную праяву ўвагі да іншага чалавека. Юбіляр, у сваю чаргу, выказаў удзячнасць парафіянам за іх клопат пра касцёл і сумленнае выкананне парафіяльных спраў, а сваім бацькам – за дар жыцця, перададзеную веру і дом, у якім ён прайшоў школу жыцця.

Урачыстасць завяршылася выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманту і малітвай да Маці Божай аб асаблівай апецы над парафіяльнай супольнасцю і яе пробашчам.

## “Дзень дабра” прайшоў у Гродне

***Акцыя, арганізаваная сацыяльным цэнтрам “Пара” сумесна з Рэлігійнай місіяй “Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Гродзенскай дыяцэзіі”, прайшла на базе Гарадской клінічнай бальніцы №3 у аддзяленні “Хоспіс”.***

У межах дабрачыннай акцыі валанцёры “Карытас” наведалі пацыентаў хоспіса і прапанавалі ім паслугі міні-цырульні, масажу рук. Моладзь таксама пачаставала хворых хатняй выпечкай і прапанавала жадаючым прымерыць ільняныя дызайнерскія капелюшы ручной работы. Вучні сярэдняй школы №8 г. Гродна падарылі пацыентам самаробныя паштоўкі.



Удзел у акцыі стаў для валанцёраў добрай нагодай, каб праявіць міласэрнасць да іншага чалавека, аб чым яны сведчаць адпаведна словам Евангелля: “быў хворы, і вы адведалі Мяне” (Мц 25, 36).

## АНОНСЫ

### СЕМІНАРЫЙНАЯ БІБЛІЯТЭКА ЗАПРАШАЕ ЖАДАЮЧЫХ ДА НАВЕДВАННЯ!

**Агульны кнігазбор налічвае больш за 35 тыс. асобнікаў – літаратуру па філасофіі, тэалогіі, біблеістыцы, гісторыі Касцёла і агульнай гісторыі, грамадскім праве, псіхалогіі, сацыялогіі, педагогіі, а таксама мастацкія творы і перыядычныя выданні. Чытачы маюць доступ да разнастайных навуковых крыніц, якія служаць дапамогай для напісання курсавых і дыпломных прац.**

Запісацца ў бібліятэку можа любы жадаючы. Пры сабе неабходна мець пашпарт.

***Час працы:***
*Панядзелак–пятніца: 10.00–17.00.*
*Субота: 10.00–16.00.*
*Перапынак на абед: 14.00–15.00.*
*Нядзеля і касцёльныя святы – выхадныя.*

***Адрас:*** *Гродна, вул. Парыжскай Камуны, 1 (Вышэйшая духоўная семінарыя);* ***тэл.:*** *(8 0152) 77-02-34;* ***e-mail:*** *wsd@grodnensis.by;* ***сайт:*** *wsd.grodnensis.by.*

### “РАДЫЁ МАРЫЯ” Ў БЕЛАРУСІ АБ’ЯВІЛА КОНКУРС НА ЛЕПШЫ СЛОГАН

**Ён павінен быць працягам радка “Радыё Марыя: ...!”.**

Каталіцкая радыёстанцыя паспяхова скончыла тэставы рэжым вяшчання і рыхтуецца да эфіраў у штатным фармаце. Новы слоган будзе адмысловa агучаны яго аўтарам і стане выкарыстоўвацца ў далейшай працы рэдакцыі.

*Свае прапановы можна дасылаць на пошту* ***radiomariaby@gmail.com*** *да 15 лютага. Аўтар найбольш цікавага слогана атрымае прыз. Перавага аддаецца найбольш простым, яркім і запамінальным варыянтам.*

### БЕЛАРУСЫ ЗАПРАШАЮЦЦА ДА ЎДЗЕЛУ Ў МІЖНАРОДНЫМ КОНКУРСЕ Ў ГОНАР БЛ. БАЛЯСЛАВЫ ЛЯМЭНТ

**Мастацка-літаратурны конкурс ладзіць агульнаадукацыйная школа № 1 у польскім горадзе Нідзіца і Кангрэгацыя Сясцёр Місіянерак Святой Сям’і.**

Яго дэвізам з’яўляюцца словы: “Усё дзеля большай славы Пана”. Гэта асноўны дэвіз і духоўны падмурак жыцця бл. Баляславы на шляху да святасці. Мэта конкурсу заключаецца ў распаўсюджванні культу бласлаўлёнай, раскрыцці багацця яе асобы і духоўных цнотаў.

*З падрабязнай інфармацыяй можна азнаёміцца на інтэрнэт-старонцы* ***misjonarki-swietej-rodziny.org,*** *дзе змешчаны дадзеныя пра партнёраў конкурсу, абавязковыя ўмовы для творчых прац, спосабы і адрас іх адсылкі.*

*Конкурсныя работы прымаюцца да 1 сакавіка.*

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 лютага 1959 г.** – кс. Павел Сенкевіч, *ген. вік., проб. Гудагай;*
**15 лютага 1972 г.** – кс. Міхал Шалкевіч, *проб. Тракелі;*
**21 лютага 1979 г.** – кс. Станіслаў Казлоўскі, *проб. Баруны;*
**24 лютага 1985 г.** – кс. Уладзіслаў Мончка, *проб. Лунна.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# На скрыжаванні
## моладзевая пляцоўка

***Хвала Хрысту!***
***Вітаю чытачоў рубрыкі “На скрыжаванні”. Запрашаю адсвяткаваць 6-ты Дзень нараджэння моладзевай пляцоўкі ў газеце “Слова Жыцця”.***

Звычайна ў такі ўрачысты дзень прынята ўспамінаць пражытыя гады. Давайце ўзгадаем, з чаго ўсё пачыналася... У лютым 2011 года быў апублікаваны першы нумар рубрыкі, які блаславіў на выданне галоўны рэдактар кс. Павел Салабуда. Менавіта ён стаў хросным бацькам моладзевай пляцоўкі, дзе мы штомесячна збіраліся для разважанняў над выбранай тэмай.

Невыпадкова была выбрана назва рубрыкі. Скрыжаванне нагадвае раздарожжа, на якім чалавек спыняецца, каб вырашыць, у якім накірунку рухацца далей. На такім раздарожжы кожны з нас апынаецца штодня, калі задумваецца, як адказаць бліжняму, ці здзейсніць пэўны ўчынак і г. д. У той жа час крыж з’яўляецца сімвалам перамогі дабра над злом, знакам Уваскрослага Хрыста. Таму “На скрыжаванні” – гэта своеасаблівая гарантыя паспяховых духоўных пошукаў. Толькі асаблівасць знаходжання на моладзевай пляцоўцы не ў тым, што чытачы шукаюць адказы на нейкія канкрэтныя пытанні, але імкнуцца задаваць сабе іх самі. І чым больш, тым лепш.

За ўвесь час на старонках газеты было апублікавана 66 нумароў рубрыкі. Разам мы шукалі свае слабыя месцы і выклікалі спакусу на дуэль, “уключалі” рэцэптары патрэбы і адкрывалі вочы на незаўважнае. Спрабавалі размаўляць на “добрай” мове, не давалі пылу асядаць на праблемах. Імкнуліся адпачыць з карысцю і пусціць у жыццё вецер змен. Спадзяюся, сумна не было. З кожным крокам мы набліжаліся да духоўнага ідэалу. Дасягнуць яго, вядома, немагчыма, а вось наблізіцца – у самы раз.

Сумеснымі намаганнямі моладзевая пляцоўка ўдасканальвалася. Без адказу не застаўся ніводзін ліст з прапановамі. Менавіта дзякуючы Вашым рэкамендацыям з’явіліся такія падраздзелы, як “інтэнцыя” і “заступнікі”. Вы былі тымі натхняльнікамі, якія прымушалі рухацца наперад.

Сёння разам перасякаем фінішную прамую. Але духоўная дыстанцыя працягласцю 6 гадоў становіцца хутчэй, стартам для далейшых пошукаў. Жадаю кожнаму з Вас час ад часу задумвацца над тым, што за абалонкай рэчаў. Той, хто сумняваецца і разважае, ужо на крок бліжэй да ісціны. Шчыры дзякуй усім, хто быў побач!

*З павагай,*
*Ангеліна Пакачайла*



***Юлія Міхалевіч**, бібліятэкар*

*Сучасны малады чалавек часта апынаецца на скрыжаванні. І, як правіла, мае патрэбу ў падказках, каб не заблукаць у жыцці. На працягу некалькіх гадоў рубрыка “На скрыжаванні” паказвала чытачам правільны кірунак. Праз яе кожны месяц набываў нейкі новы ў духоўным вымярэнні сэнс. Прапанаваўся прадмет разважанняў, а таксама справа, рэалізаваўшы якую можна было ўзмацніцца ў веры. Звычайна на кніжнай паліцы з’яўляліся новыя кнігі. У тэлефоне гучалі песні з добрым зместам... Ад імя ўсіх чытачоў дзякую аўтару рубрыкі, нашаму нязменнаму павадыру. Яго словы заўсёды кранаі душу і прымушалі глыбока задумацца над сутнасцю рэчаў.*



***Кл. Аляксандр Жолік**, навучэнец Гродзенскай ВДС*

*Мне падабаецца, што на моладзевай пляцоўцы інфармацыя духоўнага характару выкладаецца коратка і ясна. Зараз маладыя людзі шмат часу праводзяць у інтэрнэце, дзе прывыклі да фрагментарнага ўспрымання. Таму гэтая форма даволі зручная. Напачатку месяца кожны мог зрабіць сваім мота ўрывак са Святога Пісання, які, у сваю чаргу, задаваў тон і накірунак наступным падраздзелам рубрыкі. Аўтар заахвочваў маліцца ў адной інтэнцыі з Папам Рымскім, слухаць і чытаць штосьці хрысціянскае. Усё гэта было наглядным сведчаннем, што вера не абмяжоўваецца Касцёлам – яна можа і павінна пранікаць у паўсядзённае жыццё чалавека.*



***Марта Зайко**, студэнтка*

*Выпускі рубрыкі хочацца чытаць зноў і зноў. Пераглядаць, асэнсоўваць, рабіць высновы. Часам нейкі выраз перамяняе думкі і нават усё жыццё. Найбольш мне спадабаўся выпуск “Расфарбоўваем жыццё ў святочныя колеры!”. У ім ёсць такія словы Пана: “Калі хто хоча ісці за мною, (...) няхай возьме свой крыж” (Лк 9, 23). Як мне здаецца, крыж – гэта ключ да распазнання Бога праз людзей, падзеі, абставіны... Ад яго цяжару часам чалавек падае. Але вельмі важна падымацца і крочыць наперад, нягледзячы ні на што і ні на каго... Цешыць, што, калі хочаш перамяніцца, знаходзіш у рубрыцы канкрэтныя парады, як гэта ажыццявіць.*

***С. Вера Кучук CSCII**, катэхетка*

*Працуючы са старэйшай моладдзю, я выкарыстоўвала ўпадабаныя падраздзелы для катэхезы. Мне вельмі хацелася прывучыць маладых людзей чытаць штосьці духоўнага плану, развіваць сваю веру. Часта задавала ім дамашнія заданні, каб паглядзелі пэўныя артыкулы са “Слова Жыцця”, у тым ліку і рубрыку “На скрыжаванні”. Маю надзею, што зараз выхаванцы мяне не падводзяць і цікавяцца тым, што можа ўзмацніць іх маральна і духоўна.*



***Кс. Віктар Місевіч**, галоўны рэдактар газеты “Каталіцкі веснік”*

*Евангелізацыя моладзі – вельмі патрэбная і важная справа. Рубрыка “На скрыжаванні” – добрае таму пацвярджэнне. Займальная, цікавая. Але не сакрэт, што зараз маладыя людзі (за рэдкім выключэннем) слаба чытаюць папяровыя выданні. Таму жадаю журналістам “Слова Жыцця” свае таленты і досвед давераць лічбаваму носьбіту. Каб дастукацца да маладых сэрцаў, напэўна, варта выкарыстоўваць мабільныя дадаткі, інтэрнэт-рэсурсы, відэаканалы і г. д. А чытачоў заахвочваю годна сведчыць аб сваёй веры, пачынаючы з простых жэстаў: жывой размовы, пошуку далоні або шчырага позірку ў вочы.*

Лепш пытаць, чым памыляцца

**Кс. Віталій Сідорка**

### Ці можна выкарыстоўваць гіпноз як метад лячэння?

*Сёння прасочваецца тэндэнцыя прымянення дадзенага метаду псіхіятрамі і псіхатэрапеўтамі ў лячэнні рознага роду фобій і залежнасцей. Разам з тым, трэба прызнаць, што на дадзены момант тэма гіпнозу да канца так і не вывучана. Сярод навукоўцаў існуюць розныя погляды адносна дадзеных з’яў, як уплыву на псіхіку чалавека і г. д. Дыскусіі наконт “лякарства” працягваюцца. Грунтоўных даследаванняў з яснымі канкрэтнымі вынікамі не з’явілася. Атрымліваецца, выкарыстоўваць гіпноз у якасці метаду лячэння рызыкоўна, таму што вынікі могуць быць непрадказальнымі і не заўсёды пазітыўнымі. Згадзіцеся, не вельмі прыемна адчуваць сябе пацыентам, над якім праводзяцца эксперыменты.*

*Трымаючыся сціслага рэлігійнай плоскасці, трэба зазначыць, што на працягу гісторыі чалавецтва гіпноз актыўна выкарыстоўваўся ў рознага тыпу магічных, акультных і спірытуалістычных практыках. Гэта адкрывала магчымасць для дзеяння злога духа, а магло прывесці нават і да дэманічнага апантання. Вучэнне ж Касцёла адносна дадзенай праблематыкі вельмі яснае і зразумелае. Забабоны, якія з’яўляюцца адыходам ад належнага пакланення Богу і выяўляюцца ў розных формах прадказанняў, магіі, чараўніцтва і спірытызму, парушаюць першую запаведзь Дэкалога: “Не май іншых багоў, апроч Мяне”. Святары-экзарцысты аднадумна залічваюць гіпноз да вельмі небяспечных грахоўных практык.*

*Яшчэ адной прычынай негатыўнага стаўлення да гіпнозу з’яўляецца ўсё тое ж вучэнне Касцёла, згодна з якім чалавек створаны паводле Божага вобраза і падабенства (гэта значыць, адораны розумам і воляй). Права на свабоду дзеяння з’яўляецца неад’емнай часткай чалавечай годнасці. Таму выкарыстанне гіпнозу з мэтай “загаду” – вельмі небяспечная маніпуляцыя не толькі са свядомасцю асобы, але і з яе правамі.*

*Падсумоўваючы ўсё вышэйсказанае, я б не рэкамендаваў выкарыстоўваць гіпноз як спосаб лячэння. Існуюць больш эфектыўныя, а галоўнае, навукова абгрунтаваныя сродкі. Для веруючага ж чалавека ёсць таксама іншыя, паспяховыя спосабы барацьбы са страхамі ці хваробамі. Перадусім, гэта інтэнсіўнае малітоўнае і сакраментальнае жыццё, якое вядзе да поўнага даверу Нябеснаму Айцу.*

***паводле grodnensis.by***




# Свята каляднага спеву адбылося ў Сапоцкіне

Мясцовы Дом культуры ўжо ў 16-ты раз стаў своеасаблівым Бэтлеемам, дзе сустрэліся салісты, дуэты, дзіцячыя і моладзевыя гурты, парафіяльныя хоры, каб разам праслаўляць Бога ў Таямніцы Яго нараджэння.













# ЧАМУЧКІ
## Дзіцячая рубрыка



## Чаму на “хуткай дапамозе” намаляваны чырвоны крыж?

**Першыя ў свеце шпіталі і бальніцы былі створаны пры хрысціянскіх кляштарах і святынях. Ля ўваходу заўсёды вісеў крыж – сімвал бязмежнай міласэрнасці Езуса. Там пацыентаў лячылі бескарысліва: не за грошы, а з пачуцця любові і спагады да чалавека. Любы хворы, нават калі быў бедны, мог прыйсці ў такі шпіталь, каб атрымаць неабходную медыцынскую дапамогу.**

У нашы дні да хворага па тэрміновым выкліку прыязджае “хуткая дапамога”. На машыне намаляваны крыж. Але чаму ж ён чырвоны і на белым фоне? Так выглядае эмблема дабрачыннай арганізацыі, якая першапачаткова мела назву Міжнародны камітэт Чырвонага Крыжа. Ён быў створаны ў Швейцарыі для аказання дапамогі параненым падчас бітваў (незалежна ад таго, на чыім баку ваявалі людзі). Так як швейцарцы традыцыйна не ўдзельнічалі ні ў якіх войнах і не падтрымлівалі ні адну з ваюючых краін, эмблему камітэта зрабілі падобнай на швейцарскі сцяг, але толькі “наадварот” – не белы крыж на чырвоным фоне, а чырвоны крыж на белым фоне. Крыж чырвонага колеру адначасова сімвалізуе і кроў, і каханне.

Спачатку санітарныя службы выкарыстоўвалі эмблему падчас аказання медыцынскай дапамогі толькі ў час баявых дзеянняў, а потым – таксама ў мірны час. На машынах і станцыях хуткай дапамогі эмблему прымяняюць пры ўмове, што лячэнне прадастаўляецца на бясплатнай аснове.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*



## Заданне:

**каму-небудзь, хто хварэе, зрабіць сваімі рукамі паштоўку. Падарыць яе з пажаданнямі хутчэй папраўвіцца і ўстаць на ногі.**

**Чакаем Тваіх “чаму”, якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў, спалучаных з малітвай. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за тое дабро, што робіце для людзей, за разуменне і падтрымку. Жадаем шматлікіх дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці. Цешымся, што ведаем такога светлага чалавека. Шчасці Божа!
*Студэнты катэхетычных курсаў пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку**
з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў працы на ніве Пана, а таксама Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень, а побач – добразычлівых людзей.
*Сям’я Кагарка з дзецьмі, в. Навасёлкі*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем душэўнага супакою, радасці, нястомных сіл, моцнага здароўя, шчасця, паспяховай рэалізацыі ўсіх планаў і добразычлівых людзей побач. Дзякуем за ахвярнае святарскае служэнне і абвяшчэнне Евангелля. Няхай Бог благаславіць кожны момант жыцця, Марыя адорвае сваёй ласкай і апекай, а Анёл-ахоўнік абараняе ад усякага зла.
*Удзячныя парафіяне з в. Бакшты*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вячаславу Матукевічу**
з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, шчасця. Няхай радасць заўсёды Вам спадарожнічае, а цярплівасці і стойкасці хопіць на доўгія гады адданай душпастырскай працы. Жадаем, каб Вас абмінаў смутак, а жыццё праходзіла ў радасці. Няхай Маці Божая асвячае Ваш шлях промнямі сваёй міласэрнасці. Дзякуем за працу ў нашым касцёле, абвяшчэнне Божага слова і клопат аб парафіянах.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з касцёла ў Дудах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вячаславу Матукевічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень. Маці Божая ахінае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі ласкамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена любоўю і супакоем. Шчасці Божа!
*Касцёльны камітэт з парафіі Нараджэння НПМ у Дудах*

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, благаслаўлення, мноства радасных хвілін. Няхай заўсёды будзе Вашым Сябрам, Дух Святы асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік апекуецца Вамі.
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Беліцы*

**Шаноўным Чаславе Алешчык, Мар’яне Раманчук, Алене Крывіцкай**
з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, шмат сіл і цярплівасці. Няхай Хрыстос адорвае сваімі ласкамі, Дух Святы асвячае Ваш шлях, Панна Марыя апекуецца Вамі і вядзе найпрыгажэйшай дарогай да Пана Езуса, а кожны дзень прыносіць радасць.
*Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Паважанай Сястры Эўхарыі Хульбуй**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем сапраўднай радасці, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсім, шчасця, аптымізму і душэўнага супакою.
*Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Паважаны Ксёндз Павел Гардзейчык!**
Дзень нараджэння – час такі жаданы. І ў гэты радасны, святочны дзень Вам дзякуем з павагай і пашанай За веры моц, нібы жывы струмень. Служэння плённага на ніве Божай! Святога Духа шчодрых Вам дароў! Бог абдарыў Вас доляю прыгожай. Прыміце ж нашу ўдзячнасць і любоў! Моцнага Вам здароўя і апекі Маці Божай на кожны дзень!
*Парафіяне з касцёла МБ Шкаплернай, в. Жукойні-Жалядскія*

**Паважаным Сёстрам Эўхарыі Хульбуй, Гарэцці Мількевіч, Паўле Радзівілка, Юліяне Пятровай, Леоніі Майхшак**
з нагоды Дня кансэкраванага жыцця складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец адорвае асаблівымі ласкамі, Езус Хрыстус будзе прыкладам і праваднікам на ўсіх шляхах, Дух Святы апраменьвае сваім святлом, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай і любоўю. Шчасці Божа!
*Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Паважанай Сястры Агаце Смольскай**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні шчасця, здароўя, поспехаў. Няхай Пан Езус абараняе Вас і вядзе па дарозе, якую Вы абралі. Маці Божая няхай апекуецца і дапамагае ў жыцці. Мы памятаем і молімся за Вас.
*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**
з нагоды Юбілею складаем самыя сардэчныя пажаданні добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў і супакой назаўсёды заяснеюць у сэрцы. Дзякуем за ахвярную працу, мудрыя словы і клопат аб парафіянах.
*Вернікі з в. Лойкі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ясевічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: поспеху, захаплення, падтрымкі, верных сяброў, геніяльных ідэй, цікавых задумак, здароўя, усмешак, сонечных дзён. Няхай добры Бог адорвае Вас ласкамі, святы Заступнік ахінае сваёй апекай і вядзе па шляху пастырскага служэння, а Маці Божая нястомна чувае над Вамі і атуляе сваёй мацярынскай любоўю.
*З малітвай, апостальства “Маргарытка” з парафіі св. Францішка Ксаверыя, Гродна*

**Паважанага Ксяндза Антонія Адамовіча**
сардэчна віншуем з Днём нараджэння. Жадаем усіх Божых ласкаў, дапамогі Духа Святога, мацярынскай апекі Маці святароў. Заставайцеся заўсёды такім жа светлым і радасным чалавекам. Няхай Вашае жыццё будзе напоўнена толькі добрымі падзеямі, святлом і любоўю.
*З малітвай і павагай, вернікі з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зайко**
з нагоды Дня нараджэння жадаем здароўя, радасці, аптымізму. У гэты дзень просім Марыю, каб заўсёды ахінала Вас сваёй пяшчотай і любоўю, а Яе умілаваны Сын апекаваўся Вамі і вёў па жыццёвым шляху. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божым святлом і дарамі ад Усемагутнага.
*Вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зайко**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы. Шчасці Божа!
*Вернікі з парафіі Рэпля*

**Дарагі Клерык Юрый Пашкавец!**
З нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага благаслаўлення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Святы Дух асвячае і вядзе па Божых сцежках, а Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі. Дзякуем за цярплівасць і радасць, якую нам прыносіце. Аддзяч Божа!
*Дзеці, моладзь, міністранты і парафіяне са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Лішэку**
з нагоды Імянін і Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні здароўя, радасці на кожны дзень, благаслаўлення ад Усемагутнага, дароў Духа Святога і апекі Маці Божай. Няхай добры Бог за ўсё Вас узнагародзіць!
*Вернікі з парафіі св. Станіслава Косткі, Ваўкавыск*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл./факс: **(80152) 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 689 ; тыраж 4970; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная